Міхась ВЕРАЦІЛА

# СЬВІДНІЦКІ ПАЎГРОШ

Апошнія дні зімы 1515 года былі халоднымі й завейнымі, але Кракаў кіпеў тлумамі людзей. Купкі гараджан у шэрых сьвітках і сялян у рудых кажушках раіліся на скрыжаваньнях вузкіх вуліц і плылі ў бок Вавэля.

„Кроль ягамосьць Жыгімонт з кралёваю Барбараю прыехалі ў замак", – зьвестка, як лютаўская завейка, праімчала па горадзе. Усе, хто мог ісьці, пасунуліся ў бок ратушы, бліжэй да замка.

–Што здарылася? – пыталі адзін у другога, але ніхто не мог даць пэўнага адказу.

–Найясьнейшы кароль наш, пабіўшы маскалёў, зьбірае войска на цэсара нямецкага!..

–Кінь бляявузгаць, дурніца, пакуль язык твой не разлучылі з зубамі. Не ваяваць, а мірыцца запрашае караля цэсар зь Ведня.[1] Глядзі, колькі паноў і велькай шляхты наехала ў горад. Адных яснавяльможных дзьве тысячы паноў сабралася суправаджаць караля ў немцы.

–Чалавек кашталяна казаў мне, што на ўласныя вушы чуў, як доктар Мацей Мехавіта, астролаг каралеўскі, казаў, што дарма кароль наш сьпяшаецца на сустрэчу з цэсарам Максіміліянам-крывадушнікам, бо зборкі нябесныя паказваюць, што не быць гэтай сустрэчы раней за сярэдзіну ліпеня.[2] Папомніце маё слова...

–Ціха! Едуць! – пачуліся крыкі.

Усе змоўклі і выцягнулі шыі, каб лепей бачыць і чуць, толькі сьнег парыпваў пад пераступаўшымі нагамі.

---

А сітуацыя складалася наступная.

Імператар Сьвяшчэннай рымскай (нямецкай) імперыі Максіміліян і даўно ўжо намагаўся завалодаць каронай Венгрыі як спадчынным правам па імператару Фрыдрыху. Але ўсё дарэмна, бо не знайшоў сабе моцных прыхільнікаў сярод венграў, якія памяталі яшчэ здрадніцкія напады імператара на іх краіну падчас войнаў венграў з туркамі.

Зразумеўшы дарэмнасьць такіх намаганьняў, Максіміліян вырашыў шлюбнымі сувязямі як не сабе, дык хоць нашчадкам сваім здабыць карону Венгрыі і прапанаваў каралю Венгрыі Ўладзіславу II Ягелончыку (па венгерскі – Уласло II, а дакладней – Уі) ажаніць яго сына Людовіка на пляменьніцы Максіміліяна – Марыі, а дачку Анну аддаць за аднаго з пляменьнікаў імператара: Карла альбо Фердынанда.

Сітуацыя складаная. Калі адмовіць імператару, тады ў выпадку сьмерці Уладзіслава II спадкаёмцам трону застаецца дзевяцігадовы сын Людовік – ці ўтрымае дзіця карону? А калі згадзіцца, дык атрымаецца, што завязаў сваячэнства з заклятым ворагам роднага брата Жыгімонта І – караля Польшчы. Вось і напярэдадні герцаг прускіх крыжакоў, падбухтораны імператарам, паслаў сваіх лотраў [3] на польскія землі, а цар маскоўскі ўступіў на землі Вялікага княства Літоўскага.

І Уладзіслаў робіць хітры, але, напэўна, адзіна правільны ход у гэтай сітуацыі – кажа Максіміліяну, што не можа нічога распачаць, не параіўшыся з братам, якога імператар ненавідзіць і ворагаў супраць яго падбівае. Максіміліян дае згоду на сустрэчу й прымірэньне з Жыгімонтам, а Ўладзіслаў – на прапанаваныя шлюбы.

Людовіка ажанілі з Марыяй, а сястру яго Анну выдалі замуж за Фердынанда. Дзякуючы гэтаму шлюбнаму саюзу, герцаг Прусіі атрымаў загад імператара скласьці ленную [4] прысягу Жыгімонту І.

Уладзіслаў II Ягелончык памёр 13 сакавіка 1516 года. Каралём Венгрыі стаў дзесяцігадовы Людовік II Ягелончык (1516–1526).

---

А цяпер можна й расказаць пра даволі цікавы факт беларускай нумізматыкі.

У Венгрыі правіць малалетні кароль Людовік II Ягелончык, як яго тут называюць, Лайош II, ён жа кароль Чэхіі і князь бжэска-легніцкі; а ў Польшчы – Жыгімонт І – брат Уладзіслава II Ягелончыка, дзядзька й апякун Людовіка, пакроўны родзіч яго. Дарэчы будзе тут прыпомніць, што Жыгімонт І выпусьціў і першую датаваную манэту Польшчы – грош „белы" глагоўскі 1506 года, калі ён быў яшчэ князем Глагова на Сілезіі.

Ужо ў 1507 годзе на Кракаўскім манетным двары пачынаюць чаканку „каронных" (польскіх) паўгрошаў зь яго імем. Кампазіцыйна малюнак паўгроша склаўся яшчэ ў ХУ стагодзьдзі, пры Ягайле. А прататыпам яму, хутчэй за ўсё, паслужыў „пражскі грош". Даволі прыгожая, рэнесансная манэта – паўгрош Жыгімонта І – непараўнальна прыгажэй за прымітыўныя малюнкі паўгрошаў жыгімонтавых папярэднікаў, з мудрагелістымі гатыцкімі легендамі.[5] Калі дзяржаўны герб – арол не перанёс значных зьмен, дык малюнак кароны (у цэнтры вонкавага боку) зрабіўся зусім аб'ёмным.

Дзесяць год карысталіся новай манетай у Польшчы й Вялікім княстве Літоўскім жыхары гарадоў, мястэчкаў і вёсак. Звыкліся зь яе выглядам, паверылі ў яе цьвёрдасьць і важкасьць. І раптам – бяда! Вялікая бяда звалілася не толькі на галовы простых людзей, а й на ўсю эканоміку краіны. І вінаватым у гэтым няшчасьці аказаўся пляменьнік Жыгімонта І – Людовік Венгерскі.

У 1516 годзе Людовік атрымаў каралеўскі трон і адразу распачаў фінансавую афёру. Ён адкрывае ў сілезскім горадзе Сьвідніца (Швайдніц) манэтны двор, дзе ўжо ў 1517 годзе распачынае чаканку паўгрошаў, якія па малюнку былі дакладнай копіяй паўгрошаў дзядзькі – Жыгімонта І. Але гэта не была падробка, бо Людовік „сумленна" выбіваў на іх легенду:

LUDOVICUS · R · VN · ET · BO • CIVITAS · SWIEN

(Людовік, кароль Венгрыі й Чэхіі, горад Сьвідніца) і год чаканкі.

З кракаўскай грыўні (197 грам) чыстага срэбра ў Польшчы білі толькі 256 паўгрошаў, а Людовік з грыўні значна горшага срэбра біў усе 340 паўгрошаў сьвідніцкіх.

Ужо ў 1517 годзе Жыгімонт І зьвяртаецца да Радных паноў Сілезіі з патрабаваннем спыніць чаканку сьвідніцкай манэты альбо хоць недапускаць вывазу яе ў суседнюю Польшчу. А ў 1518 годзе выдаў новы ўказ, які катэгарычна забараняў люду паспалітаму прыймаць „подлую" сьвідніцкую манэту. Але нават гэтыя радыкальныя меры не змаглі спыніць наплыў нізкапробных паўгрошаў у краіну. Па-першае, дзіўнае вонкавае падабенства сілезскіх манэт да польскіх, якія просты народ увогуле не мог адрозьніць ад чужых; па-другое, вялікі зыск ад звычайнай перавозкі добрых польскіх паўгрошаў у Сьвідніцу, дзе іх перараблялі на нізкапробныя людовікавы паўгрошы, а „подлых" сьвідніцкіх – у Польшчу й Вялікае княства Літоўскае.

Трэцяга чэрвеня 1522 года Жыгімонт І у лісьце да Ваяводы Кракаўскага й Канцлера Вялікага Кароннага Кшыштафа Шыдлавецкага піша зь Вільні:

„Справы Найяс (ьнейшага) Пляменьн іка нашага Людовіка, Венгерскага і Чэшскага Караля, не абыякавыя нам. Місіі па справах яго многа нам каштуюць, на што, падобна, Кароль, наш Пляменьнік, не вельмі зважае, калі парадам чужых аддае перавагу над нашымі і непрыяцеляў нашых ласкавей прымае, чым гэтага прыстойнасьць патрабуе".

Дзіўная справа: вялікую шкоду робіць Людовік сваёй сьвідніцкай манэтай для эканомікі Польшчы й Вялікага княства Літоўскага, а Жыгімонт – апякун усё яшчэ спрабуе пераканаць яго ў непрыстойнасьці паводзін та праз сваіх пасloў, та праз біскупа пяці касьцёлаў у Венгрыі, та праз ваяводу Сяміградскага, та сваім, сапраўды бацькоўскім, словам. Вось адзін такі ліст цалкам:

„Жыгімонт І. Кароль Польшчы й інш.

Людовіку, Венгерскаму й Чэшскаму Каралю, Пляменьніку свайму.

Найясьнейшы Кароль. Хачу В. К. М.[6] пераканаць, што стан і годнасьць яго нас вельмі датычыць, як нашы ўласныя; пераканаць у тым, што ўсё, што да павагі В. К. М. і дабра падданых яго належыць, як дзядзька, як апякун, як прыяцель, маю сабе за сьвяты абавязак. Па-першае, калі ўлада й увесь быт наш знаходзіцца ў руках Бога, калі й Каралі перад тварам яго толькі нікчэмны прах, просім В. К. М. каб ва ўсіх справах сваіх Бога перад вачыма меў заўсёды, яму служыў, і не толькі ў касьцёле, але й у комнаце сваёй маліўся, імшу С.[7] уважліва слухаў, у сьвятыя дні на ловы не езьдзіў, а калі важныя справы маеш абмяркоўваць, дык цалкам ад ловаў тых адказаўся б; забавы яго хай будуць умеранымі й прыстойнымі, якія Каралям і асабліва гэтаму клапатліваму часу прыстойны. Калі В. К. М. на Радзе знаходзішся, кажы тое, што патрэбна; не лёгка, а старанна ўсе справы разглядай і разьбірай. Сабак у пакоях і пры стале сваім не трымай, не павінны яны на парогах Каралеўскіх знаходзіцца. Сьцеражыся п'янства й распусты, ганьбяць яны Каралеўскую Вялікасьць. – Не зьвязвайся В. К. М. зь людзьмі, як толькі з сур'ёзнымі, з дабрадзейнасьці й навук вядомымі; даючы, уважай каму даеш, сьцеражыся аднолькава як матаўства, так і скнарнасьці. – Лазьні не ўжывай празьмерна, бо яна аслабляе цела, не еш у ёй ніколі, таму што гэта шкадліва й часта нават сьмяртэльна. А больш за ўсё ўхіляйся В. К. М. ад таварыства лісьліўцаў, крывадушнікаў, людзей лёгкіх, здольных перакінуцца на чужы бок, нічому В. К. М. прыстойнаму ад іх не навучышся, а за парадамі іх ідучы, не ашчасьлівіш народаў тваіх. Не вельмі спадзявайся на розум свой, райся з дабразычлівымі й спрактыкаванымі. Памяркоўнасьць толькі памяркоўнасьцю акружаць сябе любіць. Так В. К. М. сапраўды бацькаўскім афектам угаворваем, зычачы,каб перасьцярогі гэтыя нашыя прыняў сэрцам, якім іх даём. Калі В. К. М. нас, краіны свае, калі гонар, калі, нарэшце, жыцьцё ўласнае мілуеш, рабіць і паводзіць сябе будзеш так, як мы раім. Даручаем нас добраму сэрцу В. К. М., зычачы яму доўгіх год жыцьця. – Дан у Кракаве року 1523, панаваньня нашага семнаццатага".



А



*Паўгрош Жыгімонта І Ягелончыка (1506–1548). Кракаў.*



Б



*Паўгрош Людовіка II Ягелончыка (1516–1526). Сьвідніца.*

З 1518 года каралеўскія эдыкты вызначаюць суровую кару таму, хто будзе прымаць манэту сьвідніцкую. Ідзе час, але нічога не зьмяняецца. Не дапамаглі ні пратэсты, ні ўказы, ні забарон для купцоў выезду ў Сілезію, ні поўнае закрыцьцё гандлёвых аперацый зь ёю на дзесяць год. А колькасьць сьвідніцкіх паўгрошаў у абароце катастрафічна павялічваецца. Складаецца ўражаньне, што ўсе ўказы й пратэсты з Польшчы яшчэ мацней падганяюць і стымулюць работу сьвідніцкіх манэтчыкаў. Усё больш і больш набіваюць манэтных штэмпеляў, ужо, нават, і з памылкамі, на якія ніхто не зварочвае ўвагі. Трэба сьпяшацца, бо грошы робяць большыя грошы!

На паўгрошах 1526 г. замест слова „SWIEN" (Сьвідніца) сустракаецца „SWIEN" і нават „SWIEUI"...

29 жніўня 1526 года ў бойцы з туркамі пад Мохачам Людовік II Ягелончык загінуў.

Здаецца, цяпер ужо манэтная афёра павінна спыніцца. Але дзе там! У наступным годзе з'яўляюцца „сьвежыя" паўгрошы зь імем Людовіка II і годам чаканкі 1527, а потым нават з годам 1528.

І нават калі пасьля некалькіх пратэстаў у сейм венгерскі й князёў сілезскіх, нарэшце (у 1528 г.), сьвідніцкі манэтны двор быў закрыты, наплыў „подлай" манэты не скончыўся. Цяпер яна пацякла з Прусіі, дзе была амаль адзінай манэтай штодзённага абароту.

Цікавае заканчэньне гісторыі са сьвідніцкім паўгрошам дае вядомы беларускі нумізмат Валянцін Навумавіч Рабцэвіч у сваёй кніжцы „О чем рассказывают монеты". Прывяду яго цалкам:

„У 1527 г. сейм фактычна капітуляраваў перад паўгрошам Сьвідніцы, прызнаўшы яго права на абарот па курсу ўдвая ніжэй, чым польскага (г. зн. па 2 дзенарыі), і пагражаў канфіскацыяй маёмасьці й сьмерцю парушальнікам гэтай пастановы. Нарэшце сеймавае рашэньне 1528 года заявіла: „Вялікае мноства манэты сьвідніцкай, наперакор забарону нашаму, да паньстваў нашых увозіцца ў такой колькасьці, што ўжо мала можна знайсьці добрай манэты"; далей прыводзіцца рашэньне аб скупцы паўгрошаў Сьвідніцы ад насельніцтва й пераплаўцы іх на дзяржаўных манэтных дварах.

Аб размаху гэтай аперацыі можна меркаваць па наступных лічбах: за жнівень–верасень 1546 г. у Гародні іх было „адаслана" 202500 штук; у Бярэсьці на працягу жніўня–верасьня 1546 г. і студзеня 1547 г. – 658125; у Мазыры й Полацку ў верасьні 1546 г. – 168750.[8]

Апошні дакументальны ўспамін аб манэце Сьвідніцы (у сувязі зь яе пераплаўкай на Віленскім манэтным двары) адносіцца да 1562 г. „Адзываньне", безумоўна, грунтоўна адбілася на колькасьці дайшоўшых да нашых дзён сьвідніцкіх паўгрошаў. Але аб масавасьці іх увозу на тэрыторыю Беларусі сьведчаць не толькі пісьмовыя крыніцы, але й той факт, што нават у скарбах ХУII ст. яны не складаюць вялікай рэдкасьці".

---

[1] – зь Ведня (польск.) – зь Вены.

[2] – зьезд каралёў Венгрыі і Польшчы з імператарам Максіміліянам. Першым адбыўся 20–21 ліпеня 1515 года ў чатырох мілях ад Вены.

[3] лотр (польск.) – падлюга, нягоднік, паганец, разбойнік.

[4] – леннасьць (гістар.) – залежнасьць, васальнасьць.

[5] – Легендамі ў нумізматыцы называюцца ўсе надпісы на манэце.

[6] – В. К. М. – Ваша Каралеўская Міласьць.

[7] – С. – Сьвятая (сьвятую).

[8] – Па польскіх крыніцах (1981 г.), манэтны двор у Вільні выкупіў на працягу 1546–1547 гадоў паўгрошаў Сьвідніцы больш за тры мільёны штук.

---



## *Грошы беларускіх рэўкомаў*



ПАЎСТАГОДДЗЯ калекцыяніруе грашовыя знакі супрацоўнік брэсцкай гасцініцы „Інтурыст" А. Ф. Шыраеў. Першая яго нумізматычная калекцыя, складзеная яшчэ школьнікам, загінула ў час фашысцкай акупацыі. У пасляваенныя гады ён сабраў больш як дзве тысячы купюр, сярод якіх асаблівае месца займаюць боны прыватных выпускаў беларускіх гарадоў, знакі спецыяльнага прызначэння, грошы рэвалюцыйных гадоў.

– Пасля Кастрычніка ў многіх гарадах Беларусі, якія не мелі сувязі з цэнтрам, мясцовыя органы ўлады для ўстойлівага забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання наладзілі выпуск уласных грашовых знакаў, – расказвае А. Ф. Шыраеў. – Яны выкарысталі простую друкарскую паперу, запасы аблігацый і купонаў былога царскага ўрада. Напрыклад, на адваротным баку купона дзяржаўнага казначэйства вартасцю адзін рубель чырвонай фарбай было надрукавана: „Мае хаджэнне ў якасці грашовага знака ў межах улады Мазырскага рэўкома.".

У 1917 годзе на станцыях Лунінец, Лахва, Мікашэвічы, іншых паявіліся грошы, надрукаваныя ў Гомелі на белай трывалай паперы шэрай фарбай. Купюры вартасцю адзін, тры, пяць і дзесяць рублёў вырабілі па рысунку чарцёжніка ўпраўлення палескіх чыгунак Валовіча. Просты і своеасаблівы рысунак гэтых купюр не меў паўтарэння сярод выпускаў тых гадоў. На бонах надпіс: „Харчовы камітэт палескіх чыгунак. Мае абарачэнне нароўні з крэдытнымі білетамі выключна па набыццю ўсякіх прадуктаў з харчовых камітэтаў і пададдзелаў палескіх чыгунак. 1917 г.". Іх прымалі чыгуначныя кааператывы, крамы, станцыйныя буфеты.

Па-іншаму вырашыў праблему Лідскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Па яго заказу ў лютым 1919 года ў прыватнай друкарні надрукавалі бланкі разменных знакаў вартасцю ад аднаго рубля да дзесяці. На іх ставілася пячатка ваенна-рэвалюцыйнага камітэта і подпіс яго старшыні. Гэтыя знакі выкарыстоўваліся менш двух месяцаў.

У 1919 годзе папяровыя дзесяцірублёвыя грашовыя талоны, а пазней таварныя ордэры выпусціў цэнтральны рабочы кааператыў „Грамадзянін" у горадзе Ігумен (цяпер Чэрвень), па якіх іх уладальнік мог атрымаць тавары ў крэдыт.

У гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны талоны, купоны, пазыковыя пісьмы, іншыя папяровыя грашовыя знакі выпускалі многія мясцовыя органы ўлады, кааператывы, іншыя грамадскія арганізацыі.

П. СУСІКАЎ.

*„Чырвоная змена" 4 ліпеня 1987 г.*

# Медальерная Скарыніяна

Першы медаль з выявай Францыска Скарыны быў створаны на Беларусі мастаком А. Кушкурэвічам і адштампаваны тыражом 820 экземпляраў са спецыяльных сплаваў у 1967 годзе з выпадку 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. Упершыню ў выяўленчым мастацтве гэты твор знаёміць нас з профільным адлюстраваннем твару першадрукара. Урачыстасць і засяроджанасць вобраза нагадвае лепшыя з вядомых нам узораў старадаўніх медалёў.

Праз дванаццаць гадоў пасля выпуску першага медаля мастак М. Байрачны па заказу Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю стварае керамічную памятную плакету, прысвечаную XI міжрэспубліканскаму конкурсу „Мастацтва кнігі”, які праходзіў у Мінску. У цэнтры плакеты — вобраз асветніка, які паўтарае партрэтную і кампазіцыйную пабудову графічнай работы са скарынінскай Бібліі.

У 80-я гады тэма знаходзіць свой працяг у творчасці маладых мастакоў. Тры творы медальернага мастацтва, прысвечаныя знакамітаму земляку, стварае Э. Астаф'еў. На плакеце В. Янушкевіча Скарына паказаны ў позе аранта, запазычанай са старых абразоў. Гэта поза сімвалізуе тую прапаведніцкую ролю, якую яму было наканавана адыграць у справе асветніцтва, адукацыі і фарміравання нацыянальнай свядомасці свайго народа. Медаль у кераміцы, які па форме нагадвае старажытную пячатку, стварае В. Прыешкін. Адзін з самых светлых і ўзвышаных вобразаў Скарыны паўстае перад намі ў творы скульптара А. Дранца. На яго плакеце, выкананай у выглядзе барочнай аркі, — малады летуценнік у росквіце сваіх нерастрачаных сіл і юнацкіх ідэалаў, у промнях славы і прызнання еўрапейскага навуковага свету.

Плённымі для мастакоў былі гады 1985 і 1986. Гэта звязана з актыўнай падрыхтоўкай да святкавання 500-годдзя з дня нараджэння вялікага асветніка і гуманіста. Тонкай прапрацоўкай дэталей, багаццем сэнсавай і інфармацыйнай нагрузкі, гранічнай выразнасцю вызначаюцца медалі Р. Іванова, А. Зіменкі, С. Гарбуновай, якія надзвычай удала скарысталі ў сваіх творах сімволіку і знакі Скарыны. За аснову сваёй керамічнай плакеты Т. Васюк узяла герб Скарыны, дзе вобраз сонца трактуецца як вобраз самога першадрукара, які вядзе барацьбу з цемрай, нясе свайму народу святло.

Зусім іншае выратэнне знаходзім мы ў М. Канцавога. Адмовіўшыся ад сімволікі, ён упрыгожвае поле медаля элементамі беларускага арнаменту. Арыгінальна спалучаюць прыёмы манументальнасці і ўмоўнасці, набліжаючы пластыку лепкі да манументальнага рэльефу, А. Крывенка і Г. Гаравая. Да поўнай адпаведнасці з аўтапартрэтам Скарыны імкнецца ў сваёй плакеце і рандо Г. Мурамцаў.

Прыцягвае да сябе ўвагу спроба Ю. Анушкі перавесці на мову медальернага мастацтва скарынінскую графіку. Стварае своеасаблівы эфект святлаценяў, надае вобразу Скарыны ўзнёсласць адліты з сілуміну і таніраваны пад старое срэбра медаль Г. Асташонка. Як здабытак у медальернай скарыніяне трэба адзначыць і другую работу В. Прыешкіна — медаль з тэракоты, выкананы для ўзнагароды ўдзельнікаў першых Скарынінскіх чытанняў у Мінску.

Унеслі свой уклад у медальерную скарыніяну і мастакі іншых рэспублік. Латышскі скульптар Янус Струкуліс у 1979 годзе адліў з бронзы медаль з двухбаковым адлюстраваннем. На вонкавым баку — партрэт першадрукара, на адваротным — жнец за працай (фрагмент гравюры з кнігі „Руф”).

Таксама з бронзы выканаў у 1985 годзе медаль Скарыны літоўскі скульптар Рымантас Даўгінтыс. За кампазіцыйную аснову ўзяты іканаграфічны матэрыял з Бібліі, але аўтар, карыстаючыся прыёмамі стылізацыі, стварае свой вобраз Скарыны.

Мадэльерная скарыніяна мае ўжо пэўныя дасягненні як па колькасці, так і па мастацкай якасці сваіх твораў. На сённяшні дзень яна бадай што ні ў чым не ўступае медальернай купаліяне, вывучанай і апісанай у энцыклапедычным даведніку.

Анатоль БЕЛЫ.

*(Часопіс „Беларусь”).*

М. КАНЦАВЫ, 1985 г., сілумін таніраваны.

Р. ІВАНОЎ, 1985 г., сілумін.

Э. АСТАФ'ЕЎ, 1980 г., гіпс.

А. ЗІМЕНКА, 1986 г., гіпс таніраваны.

Г. АСТАШОНАК, 1985 г., сілумін.

М. БАЙРАЧНЫ, 1979 г., кераміка.

# Асігнацыі ў Шклове

У гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў на тэрыторыі Беларусі ў розных месцах выпускаліся свае папяровыя грошы. Вядомыя такія выпускі ў Гомелі і Лідзе, Гродне і Рагачове, Ігумені і Слуцку, Бабруйску і Менску, Кольшках (Віцебская губерня). Грошы выпускаліся не толькі гарадскімі ўладамі, але і гандлёвымі абшчынамі, рэўкамамі і г. д.

Выпускі гэтыя — дзяржаўныя і прыватныя — амаль усе апісаны ў каталогах. Іншая справа — як апісаны: дакладна ці не, з памылкамі ці без іх і ці ўсё апісана? Трэба, нарэшце, беларускім баністам гуртам узяцца за стварэнне поўнага каталогу бонаў, якія ўжываліся на тэрыторыі рэспублікі.

Ёсць такія папяровыя грошы, выпушчаныя на Беларусі, пра якія калекцыянеры-баністы амаль нічога не ведаюць і якіх не маюць у сваіх калекцыях. Некаторыя звесткі пра іх можна знайсці ў кнізе С. Тучкова „Рускі быт ХУІІІ стагоддзя”. Аўтар расказвае, што ў канцы ХУШ ст. ў Шклове выдаваліся папяровыя грошы. Па апісанню Тучкова, „это были не долговые расписки и векселя, а скорее всего то, что следует понимать под ассигнациями”.

Менавіта ў канцы ХУІІІ ст. у ваколіцах Шклова пасяліўся генерал-лейтэнант граф Зорыч. Выхадзец з Сербіі, ён служыў у Расіі ў гусарскім палку. Вызначыўся ў некалькіх бітвах руска-турэцкай вайны, быў у турэцкім палоне. Вярнуўшыся ў Расію, служыў у лейб-гусарскім эскадроне, наблізіўся да двара Кацярыны ІІ, хутка стаў яе фаварытам. Але гэты поспех ненадоўга спадарожнічаў генералу, і ён быў звольнены са службы. Пасяліўшыся ў сваім маёнтку пад Шкловам, Зорыч разгарнуў бурную гаспадарчую дзейнасць, Пабудаваў некалькі фабрык — канатную, гарбарную, палатняную, шаўковых тканін, адкрыў прыгонны тэатр.

Неўзабаве з'явілася ў Шклове і „вынаходка” Зорыча — папяровыя грошы — асігнацыі. У Расіі выпуск асігнацый быў пачаты пры Кацярыне ІІ у 1769 годзе. Але гэта былі дзяржаўныя папяровыя грошы, а Зорыч выпусціў прыватныя.

З'яўленне ў Шклове асігнацый Зорыча адносіцца да таго перыяду яго жыцця, калі пасля смерці Кацярыны ІІ ён быў выкліканы на нядоўгую службу да імператара Паўла І.

Што ж сабой уяўлялі гэтыя прыватныя асігнацыі? Дакладных звестак пра іх няма. Вядома, што гэта былі невялікія друкаваныя паперкі, на якіх указвалася цана ад 5 да 100 рублёў. Іх ахвотна прымалі ў Шклове ўсе крамнікі, купцы, дзелавыя людзі. Пасля смерці Зорыча па гэтых асігнацыях было выплачана больш грошай, чым па вэксалях.

Гісторыя не захавала нам гэтых асігнацый, бо яны былі знішчаны. Калекцыянерам даводзіцца задавальняцца толькі іх апісаннямі. А можа хто з баністаў зберагае асігнацыі Зорыча ў сваіх калекцыях? Хай бы падзяліліся звесткамі пра іх.

Леў КОЛАСАЎ.

*БАНК ПРАПАНОЎ*

1993 год

*110 год з дня нараджэння Сьцяпана НЕКРАШЭВІЧА, акадэміка АН Беларусі (1883–1937).*

*130 гадоў назад пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.*

*250 гадоў назад, у 1743 годзе, пачалося паўстанне сялян Крычаўскага староства пад кіраўніцтвам Васіля ВАШЧЫЛЫ.*

*50 гадоў з дня пагібелі ХАТЫНІ (22 сакавіка 1943 года).*

*400 гадоў з дня смерці Сымона БУДНАГА.*

*100 гадоў з дня нараджэння Максіма ГАРЭЦКАГА (18 лютага 1893 г.).*

*125 гадоў з дня нараджэння Каруся КАГАНЦА (10 лютага 1868 г.).*

*100 гадоў з дня нараджэння Яўгена ЦІКОЦКАГА (26 снежня 1893 г.).*

*1000 гадоў ЗАСЛАЎЮ.*

*600 гадоў БЫХАВУ.*

*50 гадоў з дня пачатку аперацыі „Рэйкавая вайна” (3 жніўня 1943 г.).*

*525 гадоў з дня выдання „Судзебніка Казіміра ІУ” — першага зводу законаў Вялікага Княства Літоўскага (29 лютага 1468 г.).*

ДАПАМАГУ

набыць калекцыйны матэрыял „Беларусікі” для калекцыянераў, якія жывуць за межамі Радзімы (як у блізкім, гэтак і далёкім замежжы). На Ваш запыт вышлем навінкі філатэліі Беларусі, іншы калекцыйны матэрыял. Чакаю лістоў з прапановамі аб супрацоўніцтве па адрасе:

211030, БЕЛАРУСЬ,
Віцебская вобласць,
г. Ворша,
РУС а/с №9,
ШПАК Валянцін.

„БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР” — орган Арганізацыйнага камітэту Беларускага таварыства калекцыянераў.

*Аршанская друкарня. Заказ №119.*

*АДРАСЫ ДЛЯ ЛІСТАВАНЬНЯ:*
*211030, места Ворша, вул. Флёрава, 7, кв. 16.*
*Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.*
*220131, Менск-131, п/с 229.*
*Цярохіну Уладзіміру Станіслававічу (хатні тэл. 61-21-78).*

Кошт 80 капеек.
Наклад 999 асобнікаў.

Нумар рыхтавалі
Алесь СЯРОЖКІН,
Уладзімір ЦЯРОХІН
і Мікола ДЗЕМІДОВІЧ.